*З родным словам кроў не стыне…*
*А. Бабаед*




# КАРДОН


**№1**

***жнівень 1999***

**Інфармацыйна – публіцыстычны бюлетэнь бешанкавіцкага «Таварыства беларускай мовь**


<u>*Слова рэдактара*</u>

***Дарагія сябры!***

***Вы трымаеце ў руках інфармацыйна-публіцыстычны бюлетэнь Бешанковіцкай суполкі Таварыства Беларускай мовы імя Францыска Скарыны.***

***Кардон – гэта граніца, варта, невялікі старажавы пост для аховы. Мы выстаўляем свой «КАРДОН» у абарону ўсяго беларускага: мовы, гісторыі, незалежнасці нашай роднай Беларусі – зямлі пад бельмі крыламі, яе працавітых і шчырых людзей, вас, землякі.***
***Станавіцеся побач!***
***Будзем працаваць разам!***

## ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ.

*«Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!»*
*Францішак Багушэвіч*

Нацыянальная мова – неацэнны духоўны скарб народа. Страта нацыянальнай мовы вядзе да заняпаду культуры і знікнення самога народа як самабытнай этнакультурнай супольнасці. З мэтай адраджэння беларускай мовы ў Беларусі і, праз мову, усёй беларускай нацыянальнай культуры ў 1989 годзе была створана грамадская арганізацыя – Таварыства Беларускай мовы імя Францыска Скарыны (ТБМ). ТБМ шмат робіць для аднаўлення ў грамадстве стаўлення да роднай мовы, як да нацыянальнай святыні, пашырэння яе ўжытку ва усіх сферах жыцця, для яе усебаковага развіцця і захавання чысціні і самастойнасці. Задача ТБМ таксама садзейнічаць зберажэнню і развіццю нацыянальнай культуры і народных традыцый, гістарычнай памяці і фарміравання нацыянальнай самасвядомасці.

Сябрам ТБМ можа быць кожны грамадзянін Рэспублікі Беларусь старэйшы за 16 гадоу, хто прызнае мэты ТБМ і спрыяе іх ажыццяўленню.У гэтым годзе суполка ТБМ створана і у Бешанковічах. Адной з першых спраў суполкі стала выданне кнігі вершаў Алеся Бабаеда «Ля вогнішча» і яе распаўсюджванне.Сябры суполкі ТБМ прымалі актыўны ўдзел у мерапрыемствах, прысвечанных 200-годдзю А.С. Пушкіна, выступалі са сваімі вершамі на вечарах у музычнай школе і школе №1 г.п. Бешанковічы, а таксама у Раенным Доме культуры.

Суполка падтрымлівае сувязь з іншымі арганізацыямі вобласці. З мэтай данесці свае ідэі да іншых і рэалізаваць свае творчыя магчымасці, задуманы і ажыццеўлены выпуск гэтага інфармацыйнага бюлетэня, які плануем выдаваць і надалей.Калі вас хвалююць пытанні захавання беларускай мовы, гісторыі нашай Бацькаўшчыны і наогул усяго роднага, беларускага – будзем рады працаваць разам. Калі ў вас з'явіліся пытанні, ідэі, заувагі ці проста жаданне шчыра пагаварыць аб набалелым – звяртайцеся да нас па тэлефоне 2-26-93 або па адрасу 211350 Бешанковічы, вул. Маладзежная 9-21.

Валянціна Гракун
Кіраунік Бешанкавіцкай суполкі ТБМ

### КОЛЕРЫ ШЧАСЦЯ

*Абмялелая рака*
*Растае ў далекай сіні.*
*Льюцца гукі з-пад смычка:*
*З родным словам*
*кроў не стыне...*
*Не, не хопіць і жыцця*
*Адлюбіць усе, што люба.*
*Нібы роднае дзіця,*
*Усе свае не дам на згубу.*
*Вам, што збіліся ў зграю,*
*Не атруціць нашу кроў.*
*У цябе, мой родны краю,*
*Ружа чорная вятроў.*
*Есць пачатак, дзе ж канец*
*Болю, роспачы, нягодам?*
*Прыйдзе, прыйдзе пасланец*
*Праўды, шчырасці, свабоды.*
*Сэрца зойдзецца не ў скрусе –*
*З радасці доугачаканай,*
*Бо народ мой беларускі*
*Быў загнаны, стаў прызнаны.*
*Дачакаўся той пары,*
*Як вясны чакаюць людзі.*
*Завірыліся віры –*
*Плынь ціхмяную абудзяць.*
*Гартаваны мой народ*
*Сечамі і працаю,*
*Мо таму, сярод нягод,*
*І не знішчан катамі.*
*Дзміце, сіверы-вятры,*
*Над Дзвіной і над Гарынню…*
*Грайце у гуслі, гусляры:*
*З роднай песняй*
*кроў не стыне:*
*Алесь Бабаед*





# ДЕКРЕТ № 29 – КОМУ ОН НУЖЕН?

26 июля 1999 вступил в силу и вроде бы уже и действует Декрет президента Республики Беларусь "О дополнительных мерах по совершенствованию трудовых отношений, укреплению трудовой и исполнительской дисциплины". Что нового принес он всем нам?

Начнем с влияния декрета на работников. Основным нововведением этого документа является распространение декрета на всех без исключения рабочих и служащих. В случае отказа работника перейти на контракт его без объяснения причин через месяц уволят. Контракт заключается на срок не менее одного года. Увольнение работника после истечения срока контракта не требует каких-либо обоснований. В приказ и в трудовую книжку просто будет внесена надпись "истечение срока контракта" при увольнении в связи с истечением срока контракта не предусмотрено никаких выходных пособий. Значит, нанимателю будет выгодней подождать конца срока контракта, чем увольнять работника по установленным законам основаниям, требующим денежных выплат и всевозможной волокиты.

Теперь перейдем к новым карательным санкциям декрета.

- Уменьшение отпуска за умышленное неисполнение трудовых обязанностей более трех часов рабочего дня. Это тот случай, когда на работе был, но от нее умышленно отлынивал. Умысел определяется начальником и, следовательно, от него полностью зависит продолжительность отпуска работника. Поэтому необходимо постоянно заниматься «имитацией кипучей деятельность» сокращенно ИКД и тем самым доказывать начальству, что ты работаешь, иначе нормального отпуска не видать, как своих ушей.
- Возможность понижения в классе любого работника за нарушение правил трудового распорядка.
- Введение ряда дополнительных оснований досрочного расторжения контрактов за нарушение работником трудовых обязанностей (например, за причинение имущественного ущерба)

Рассмотрим, как повлияет декрет на нанимателей. С одной стороны в их руках оказывается неограниченная власть над работником. Работник, переведенный на контракт попритихнет, а активность профсоюзов вообще спадет, поскольку у любого недовольного есть контракт, который когда ни будь да закончится. С другой стороны предусмотрено достаточно средств воздействия и на неугодных нанимателей.

- Это все тот же контракт, который может прекратиться в связи с истечение срока, а так же досрочно за различные нарушения в изобилии имеющиеся в любой организации.
- Штраф до 100 минимальных заработных плат за незаконное привлечение работника к ответственности.
- За задолженность по выплате заработной платы, которая составляет три и более месяцев (большинство председателей колхозов и директоров совхозов можно увольнять уже сейчас)

Декрет в своих основных положениях расходится с действующим КЗоТом, который допускает возможность заключения контрактов только с отдельными категориями работников и лишь при определенных условиях. В новом трудовом кодексе, который должен вступить в силу с 1 января 2000 года о контрактах вообще не упоминается, а в статье 35 данного документа указано, что трудовой договор прекращается только на основании, указанном в Кодексе. Декрет же предусматривает десяток причин увольнения, подлежащих обязательному включению в контракт. Кодекс, в статье 73, требует, чтобы зарплату выдавали не реже двух раз в месяц, декрет – не реже одного.

В нашей республике стало обычным делом, что в жизнь проводятся не законы, а противоречащие им указы и декреты – «президентское право».

Что же дает декрет существующей власти.

- **Вынужденное всеобщее послушание работников перед нанимателями, а нанимателей перед государством.**
- **Экономию бюджета за счет уменьшения расходов на выплаты выходных пособий увольняющимся работникам.**
- **Фактическое устранение забастовок и еще большее снижение активности профсоюзов**
- **Проведение через трудяшихся и их руководителей любых политических решений.**

Сам собой напрашивается вывод, что главной целью декрета является усиление личной власти президента и построение системы трудовых отношений на полной зависимости работника от нанимателя, а нанимателя от «центра».

В нашей республике началась беспощадная борьба с нарушителями трудовой и исполнительской дисциплины. Перевод на контракт с угрозой вылететь с работы по его окончанию это еще не тюрьма, но как говорится в народной пословице – «От тюрьмы, и от сумы не зарекайся». Никто не может гарантировать, что через некоторое время президентом не будут приняты более суровые меры.

По материалам статьи
В. Кривого и М. Пастухова
«Народная воля» №149
от 17 августа 1999 года

# Частка першая. ГІСТОРЫЯ МАЙГО ДЗЕДА

« …А ўсе горачка наша пачалося с калгасаў, з іх знікненнем павінна і скончыцца». Напэўна, гэтыя словы не аднойчы казалі вам вашы бацькі або бацькі бацькоў. Казаў гэтак мне і мой бацька. Калі-некалі прыводзіу ен мяне, малога, да нізенькіх кусцікаў на забалочаным лузе, з рэштткамі камяністых муроў. «Тут на гэтым хутары, жыў твой дзед Пятрок,- мой бацька.» Я з затоенай увагай слухаў амаль неверагодную з майго дзіцячага пункту погляду гісторыю, што тут, ля гэтага балотца стаяла хата, у якой нарадзіўся мой бацька і павінен быу нарадзіцца я, адкуль у далекім 1914-м пайшоў на фронт да Пінскіх балот мой дзед і вярнуўся-такі праз тры гады, каб шчасліва жыць аж да трыдцать другога года. Менавіта тады нейкім разумнікам захацелася праверыць тэорыю Маркса-Леніна на лёсе мільенаў такіх, як мой дзед і мой бацька. Што з гэтага атрымалася – сення бачыць кожны. Калектывізацыю правялі ў намечаныя тэрміны, асабліва не цырымонячыся. Пасядзеу мой дзед Пятрок у сененскай турме за нядачу лену, якога ён, да слова, і не вырошчваў. А мой дванадцацігадовы бацька вазіў яму туды перадачы на кані. Але горшае было наперадзе. У адну з начэй, калі з поля быў собраны нядрэнны ўраджай і снапы перавезены ў рыгу, яна ўспыхнула, як свечка. Толькі пасля гэтага ўпарты Пятрок згадзіўся на пераезд з хутара ў веску і ўступіў-такі у калгас.

Некалькі гадоў таму назад мне пашчасціла быць у Нямеччыне. Я працаваў у бауэра на ферме, даглядаў яго свіней. Уражвала знакамітая нямецкая дагледжанасць кожнага куточка зямлі. Гаспадар жыў у вялікім двухпавярховым доме з чэсанага каменя на фасадзе якога было выбіта : 1879. Пэўна дом застаўся ад дзеда, - думаў я. Да дома прымыкаюць хлявы, адзін стары, другі – новы, з чырвонай цэглы з надпісам 1955. Гэта ужо памяць ад бацькі, бо «мой» гаспадар нарадзіўся ў сорак пятым. Яго ўласнаручная пабудова – сучасны адкормачнік на 400 галоў свіней з камп'ютэрнай раздачай кармоў, зусім не псаваў від падвор'я.

Я на момант закрыў вочы і паспрабаваў сябе ўявіць, што я дома, на бацькаўшчыне. І падобныя пабудовы таксама атрымаў у спадчыну. Не ўяўлялася. Бацькава падвор'е вырысоўвалася ў маей свядомасці такім, якое яно есць хаця па нашых мерках, яно і неблагое. А вось асфальтаваная стужачка дарогі да мілага майму сэрцу балотца і палеткі з цяжкім калоссем ўяўляцца не хацелі ніяк. Паглынала іх калгасная рэчаіснасць.*(Праця́г у наступным нумеры)*

Г. Станкевіч, у мінулым аграрнік.

*Трэці сектар*

## Асамблея НДА.

7-8 жніуня ў Віцебску адбылася II Асамблея недзяржауных арганізацый Віцебскай вобласці. З дакладам аб дзейнасці і тэндэнцыях развіцця НДА выступіў кіраўнік Віцебскага філіялу Фонду імя Льва Сапегі Хрыстафор Жэляпау. Сваім вопытам і думкамі падзяліліся кіраунікі і актывісты шэрагу НДА. Прынята некалькі заяў, абрана Рабочая група для пастаяннай працы. Першае паседжанне Рабочай групы Асамблеі адбудзецца ў верасні.

У рабоце асамблеі прымалі ўдзел госці з НДА другіх абласцей, з Камісіі па дэмакратыі пасольства ЗША ў Беларусі ( Наталля Каляда), прадстаўнік ААН на Беларусі Б. Альварсан і іншыя.

*Я. Мірон*

*Праблемы моладзі*

## НА ДЫСКАТЭКУ З ВЕНІЧКАМ

Год пяць таму назад, яшчэ на хвалях перабудовы, была разбурана адзіная ў райцэнтры адкрытая танцпляцоўка, якая знаходзілася ў засені векавых дрэў ля РДК. Матывацыя дзеянняў была неблагая: «Будзем будаваць новую». Хацелі як лепш, а атрымалася, як заўжды. Словы тых абяцанняў толькі вецер па парку носіць.

Між тым, масавых мерапрыемстваў для молодзі праводзіцца не шмат, дыскатека ж у Доме культуры ў выхадныя дні, асабліва летам, збірае па 200 і болей чалавек. Яблыку недзе ўпасці. Таўкатня, гарачыня, духата невыносныя, сапраўдная парылка, хоць ты бяры з сабой венік.

Загадчыца ДК Зінаіда Насыр распавяла, што не аднойчы звярталася наконт будаўніцтва новай танцпляцоўкі да розных адказных службовых асоб раёна. Але на тое ж яны і «адказныя», каб адказаць.

У першыя гады, пасля напамінаў, яшчэ абяцалі пачаць будаўніцтва новай пляцоўкі ў глыбіні парку, а апошнім часам ужо і абяцанняў не чуваць. Добрыя намеры патанулі ў граскатні размоў пра клопат аб выхаванні молодзі. Зразумела, грошы зараз цяжка знайсці. Яны есць на грандыезныя праекты, накшталт Лядовага Палацу у Віцебску. Есць грошы на «Дажынкі», на прэзідэнцкі самалет, на наведыванне Алімпіяды ў Японіі. А на драўляны насціл і агароджу для танц пляцоўкі – няма.

Вядома, знайсці адгаворку заўседы лягчэй, чым справу зрабіць. Тыя службовыя асобы, ад якіх залежыць будауніцтва танцпляцоўкі, вядома ж выйшлі з «дыскатэчнага» узросту. Яны робяць вельмі сур'ёзны выгляд падчас чарговага абмеркавання праблем п'янства і правапарушэнняў сярод моладзі і падлеткаў, намячаюць нейкія мерапрыемствы. А з танцпляцоўкай воз і зараз на тым жа месцы.

Вам няма дзе парыцца? Прыходзьце ў суботу ў фае Дома Культуры, пар гарантаваны, як у сауне. Вады праўда няма не толькі памыцца, але і смагу наталіць. Затое цепла.

*А. Бабаед*

«КАРДОН» Бюлетэнь Бешанковіцкай суполкі «Таварыства Беларускай мовы» №1 Жнівень 1999 г. Рэдкалегія: Валянціна Гракун, Алесь Бабаед, Георгій Станкевіч. Тыраж – 299 Адрас: 211350 Бешанковічы Віцебскай вобласці вул. Маладзежная , 9-21 Тэлефон: 2-26-93
Выдадзена пры падтрымцы Віцебскага філіала «Фонда імя Льва Сапегі»